ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 14 (1548) | Пятніца, 17 лютага 1961 года | Цана 4 кап.

## Вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам і рабочым, якія ўдзельнічалі ў стварэнні і запуску шматступеньчатай ракеты і аўтаматычнай міжпланетнай станцыі да планеты Венера

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Савет Міністраў Саюза ССР сардэчна віншуюць вучоных, канструктараў, інжынераў, тэхнікаў і рабочых, якія ўдзельнічалі ў стварэнні і запуску шматступеньчатай ракеты і аўтаматычнай міжпланетнай станцыі да планеты Венера.

Стварэнне шматступеньчатай ракеты, якая забяспечыла вывад на арбіту цяжкага штучнага спадарожніка Зямлі, і старт з гэтага спадарожніка кіруемай касмічнай ракеты і аўтаматычнай міжпланетнай станцыі на траекторыю да планеты Венера, знамянуе сабой выдатнае дасягненне савецкай навукі і тэхнікі. Гэты слаўны творчы подзвіг савецкай навуковай думкі адкрывае новую старонку ў вывучэнні касмічнай прасторы і дэманструе перад усім чалавецтвам веліч творчых здзяйсненняў савецкага народа.

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза і Савет Міністраў Саюза ССР упэўнены ў тым, што гэтая слаўная перамога нашай навукі і тэхнікі паслужыць справе ўмацавання міру ва ўсім свеце і развіццю дружалюбных адносін паміж усімі народамі.

Слава савецкім вучоным, канструктарам, інжынерам, тэхнікам і рабочым! Слава нашай магутнай сацыялістычнай Радзіме!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС

САВЕТ МІНІСТРАЎ САЮЗА ССР

## СЛАВА ТАБЕ, САВЕЦКІ ЧАЛАВЕК!

З вялікай асалодай мы заўсёды слухаем вядомую песню на словы Максіма Багдановіча «Зорка Венера». Цудоўная, радасная песня, поўная рамантыкі кахання.

Калі чытаеш паведамленне ТАСС аб запуску міжпланетнай аўтаматычнай станцыі да шмат у чым загадкавай планеты Венера, дык міжволі ўспамінаеш гэтыя словы паэта...

Так, сапраўды тысячагоддзі гэтая планета, якую мы лірычна называлі зоркай закаханых, жыла толькі ў нашых марах і летуценнях. Савецкі чалавек працягнуў да яе свае разумныя рукі. Неўзабаве планета Венера перастане быць загадкай, адкрые свае таямніцы для ўсяго чалавецтва. Гэтае вялікае заваяванне розуму і сілы знамянальнай датай назаўсёды ўвойдзе ў гісторыю чалавецтва. І думаючы пра дасягненні савецкіх вучоных, інжынераў, тэхнікаў, рабочых, заўсёды прыгадваеш сваю сацыялістычную Радзіму і ганарышся ёй. Думаеш аб тым, што калі б не Вялікі Кастрычнік, які разняволіў духоўныя сілы нашых народаў, дык хто яго ведае, колькі б яшчэ часу чалавек заставаўся прыкаваным да Зямлі, а космас для яго — фантастыкай. Вольнаму чалавеку на вольнай зямлі дадзены магутныя крылы!.. Ён адвечную фантастыку, адвечную мару робіць жывой явай, рэальнасцю.

Уявіць толькі! Вякамі чалавек пазіраў на неба баязлівымі вачыма, незразумелым і таямнічым было яно для яго. Толькі адзінкі асмельваліся ўступаць у адзінаборства з царкоўнымі цемрашаламі, каб зразумець, растлумачыць, як жа пабудаваны свет. Але яны расплачваліся за гэта жыццём... Цёмныя сілы рэакцыі не дапускалі чалавека да неба, страшылі яго богам і нячыстай сілай. Але ніхто не мог стрымаць чалавечы розум. Яшчэ толькі некалькі дзесяткаў год назад чалавек упершыню падняўся над зямлёй. А потым ён пачаў узлятаць усё вышэй і вышэй, заваёўваць новыя прасторы. Але капіталістычны свет, свет цемры і прыгнёту, пастараўся выкарыстаць дасягненні чалавецтва не для міру і росквіту жыцця, а для вайны і разбурэння. Назаўсёды застанецца чорная пляма на тых, хто дасягненні вучоных выкарыстоўваў і выкарыстоўвае, каб знявечыць нашу планету, загубіць жыццё...

Іншая справа — наша Савецкая краіна. Міру і росквіту жыцця прысвячае яна дасягненні сваёй навукі і тэхнікі. Тое, што дасягнута ў нас, ставіцца на службу ўсяго чалавецтва. Гэта наш гонар і наша слава, наша ўпэўненасць у заўтрашнім дні, у тым, што чым большыя нашы дасягненні, тым у людзей вырастае большая ўпэўненасць, што вайны не будзе. Савецкі народ усю сваю магутную навуку і тэхніку паставіў на службу міру, і ён пазбавіць чалавецтва ад вынішчэння, а нашу планету ад разбурэння. Вось чаму так шалеюць імперыялістычныя заправілы і іх нікчэмныя прадажныя марыянеткі тыпу Мабуту, Чомбе, Касавубу ў Конга, Бум Ума і Насавана ў Лаосе і розныя іншыя злачынцы ў іншых краінах свету. Яны спяшаюцца напіцца чалавечай крыві, бо заўтра будзе позна, заўтра народы іх змятуць на сметнік гісторыі, як непатрэбны хлам, раздавяць, як чорных гадзюк. Забойствам слаўнага кангалезскага патрыёта Патрыса Лумумбы, знішчэннем тысяч патрыётаў, што змагаюцца за свабоду і незалежнасць сваіх народаў, цемрашалам з імперыялістычных падваротняў не спыніць ход гісторыі. Гісторыя працуе на нас, на ўсё жывое і прагрэсіўнае.

Усё чалавецтва з радасцю і надзеяй пазірае на нашу сацыялістычную Бацькаўшчыну і радуецца нашым поспехам. І яно не памыляецца. Запуск цяжкога штучнага спадарожніка Зямлі, з якога стартавала аўтаматычная міжпланетная станцыя вагой у 643,5 кілаграма, узрадваў усе народы свету.

— Слава табе, савецкі чалавек! — гавораць усюды нашы сябры. — Ты першым за ўсе часы і эпохі ўзняўся так высока і паляцеў так далёка. Ты першым пазнаёміўся з Месяцам і пакінуў там свой вымпел. Ты першым адкрыў акно ў космас. А цяпер ты накіраваў свой шлях да Венеры...

Разам з усім народам мы гаворым:

— Дзень добры, зорка Венера! Рады з табой пазнаёміцца! Мы, савецкія людзі, людзі краіны міру і дружбы!

**Рыгор НЯХАЙ.**

## Дзве зоркі

«Зорка Венера ўзышла
над зямлёю»
М. БАГДАНОВІЧ.

Выйдзі ў поле вячэрняй парою,
Позняй зімою вясну пагукаць.
Бачыш, Венера ўзышла над
зямлёю, —
Новую зорку ў небе спаткаць,

Тую, што з нашай зямлі паляцела
З гербам чырвоным краіны маёй.
Зорка Венера ярчэй замігцела
Перад сустрэчаю з роднай сястрой.

Маці-Радзіма, заўсёды мы верым
Кожнаму слову і ўзлёту твайму.
Хай жа твой вымпел ляціць
да Венеры,
Вестку падаўшы Сусвету ўсяму.

Тыдні прамчацца і цёплай парою
Ўсюды квітнець будзе ў зелені
май.
Зорка Венера, узыходзь над
зямлёю,
Зорку савецкую ў небе страчай!

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

## Паэзія жыцця

Тэлеграмы. З усіх куткоў свету. Бясконцы паток тэлеграм. Яны гучаць у эфіры. Яны друкуюцца ва ўсіх газетах. Чалавецтва ў захапленні! Увесь свет ганарыцца нашым савецкім чалавекам, яго розумам, талентам. Бо гэта ён, будаўнік камунізма, першы ў свеце ажыццяўляе адвечную мару аб раскрыцці таямніц далёкіх планет.

Мы, празаікі, зайздросцім паэтам. На душы так многа радасці, захаплення, што вершы, песні, гімны пісаць бы аб велічнай паэзіі нашага савецкага жыцця!

**Ул. ДАДЗІЁМАЎ.**

## ДА НОВЫХ ВЫШЫНЬ!

У гэтыя хвалюючыя дні, калі савецкі касмічны карабель трымае курс да Венеры, нашы людзі яшчэ глыбей пачынаюць разумець, якія вялікія перамены прынёс сацыялізм на зямлю.

Сродкамі савецкай ракетнай тэхнікі былі запушчаны спадарожнікі Зямлі, аўтаматычная міжпланетная станцыя, якая абляцела вакол Месяца, палёт на Месяц, спадарожнік Сонца...

Днямі ў космас узняўся новы спадарожнік, вагою больш шасці тон. І вось цяпер радыё данесла да нас вестку аб пасылцы аўтаматычнай міжпланетнай станцыі на траекторыю да планеты Венера. Гэта сапраўды мяжуе з фантастыкай.

Вынікі новага навуковага эксперыменту цяжка пераацаніць. Ён дасць рад выключна важных канкрэтных звестак аб умовах распаўсюджвання радыёхваль і перадачы сігналаў на звышдалёкія адлегласці, аб складзе і ўласцівасцях атмасферы на Венеры, тэмпературы на яе паверхні і многа іншых. А галоўнае — наблізіць той час, калі савецкі чалавек здзейсніць шматвекавую мару, палёт да іншых планет...

Гэтае бліскучае дасягненне савецкай навукі і тэхнікі акрыляе нас, вучоных, і натхняе на яшчэ большыя пошукі новага ва ўсіх галінах сучаснай навукі.

**Э. ФЕЛЬДШТЭЙН,**
прафесар, доктар тэхнічных навук.

Нашы маякі

## ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ

У аўтобусе гаворка зайшла аб «маяках», аб людзях, якія сваёй выдатнай працай асвятляюць шлях наперад. Слова гэтае, так нядаўна сказанае Мікітам Сяргеевічам Хрушчовым, стала крылатым.

— Ёсць і ў нас на Полаччыне свой «маяк», — з гонарам сказала адна са спадарожніц. — Можа чулі імя маладой свінаркі Лілі Баравіцкай? Сапраўдная гераіня! Яна адна без асаблівай механізацыі на свінаферме адкарміла за мінулы год 1 507 свіней.

Пленум ЦК КПСС закончыў сваю работу. Лілі Баравіцкай, якая была яго ўдзельніцай, можна было б і затрымацца на дзень—два ў сталіцы нашай Радзімы. Ды не. Назаўтра яна была ў родным калгасе. Абавязацельства вялікае — трэба да дня адкрыцця XXII з'езду партыі адкарміць дзве тысячы свіней. Цяпер дорага кожная хвіліна. Пачалі прыкідваць, як лепш размясціць адкормачнікаў, дзе зручней у цесным памяшканні выкраіць новую «жылплошчу», для «падшэфных»...

— Наогул, — сказала Ліля сяброўкам, — увечары прыходзьце, пагаворым за сталом пра будучыя справы.

У канторы саўгаса Лілю чакалі некалькі тэлеграм. Свінарку запрашалі на злёты і сходы. Вучні з суседняй Астроўшчынскай школы хацелі сустрэцца з гераіняю працы... Але толькі закончыла Ліля чытаць пошту, як пачуўся званок. Гаварылі з Віцебска. Запрашалі дзяўчыну на абласное маладзёжнае свята. Размова набыла крыху катэгарычны тон: «А працаваць хто будзе за мяне? Не паеду...»

Сяброўкі па ферме, якія слухалі адказы Лілі, у душы пагадзіліся: правільна, што адмаўляецца ехаць. І сапраўды, столькі спраў наперадзе, зіма ідзе к канцу, а цябе запрашаюць гаварыць прамовы... Калі Ліля пайшла, мы засталіся ў цеснай, няўтульнай канторцы кіраўніка аддзялення саўгаса. Адна з субяседніц, Тоня Фіялка, расказала:

— Нялёгка давядзецца нашай Лілі... На два месяцы раней тэрміну адкарміць дзве тысячы свіней... І каб кожная заважыла не менш ста кілаграмаў. Вось вазьміце аловак, падлічым, колькі трэба кармоў перакінуць сваімі рукамі... А вады колькі спатрэбіцца?!

— Ну, добра... А дзе ж ваша механізацыя? — пацікавіліся мы.

— А вы хіба не бачылі? — усміхнуўшыся, спытала Тоня.

Кармакухня свінафермы саўгаса «Банонь» размясцілася за мостам цераз Ушачу. Цемра. Праз густыя воблакі пары ледзь угадваюцца твары людзей. Хтосьці жартам гаворыць: «Туман, як у Лондане». Мне адразу ж прыгадаўся вядомы на Міншчыне калгас імя 17 верасня, дзе працуе старшынёй Уладзімір Аляксеевіч Галушка. Кармакухню там абслугоўваюць усяго два чалавекі. Бульба, буракі, морква знаходзяцца ў «шахце» і падаюцца «на гара» спецыяльным транспарцёрам ў мыйку. Затым добра вымытая і здробненая маса паступае ў катлы. А праз некалькі хвілін «кашу» грузяць у ваганеткі. Калі ласка — корм гатовы. «Повар», прыгатаваўшы яго, нават паклапоціцца аб прыправе, каб парасяты елі са смакам...

А як абстаіць справа ў саўгасе «Банонь»? Тут кармакухня не палягчае працу свінаркі. Корм у ваганеткі падвясной дарогі грузяць лапатамі... Уручную падрыхтоўваюць бульбу для варкі... Гоняць ваганетку ад кухні ў свінарнік, як жартам гавораць людзі, «адзінаццатым нумарам».

Саўгас «Банонь» — не маладая гаспадарка. Некалі, да ўзбуйнення, яна лічылася ў Полацкім трэсце саўгасаў самай перадавой. Не раз сюды прыязджалі кіруючыя таварышы з Міністэрства сельскай гаспадаркі. Не раз ішла гаворка пра механізацыю ферм, пра самыя дасканалыя кармушкі, дзе гаспадар — электрычная кнопка. Націснуў — і ў станках смачны, спажыўны канцэнтрат. Людзі сядзелі над чарцяжамі, рыхтавалі планы і праекты новых свінарнікаў. Свінар — трактарыст. Сеў за руль і падвёз на тыдзень кармоў. Але, на жаль, выдатнаму плану не суджана было здзейсніцца. Дырэкцыя саўгаса пісала аб ім у міністэрства, ездзілі туды, прасілі дапамогі.

— Механізацыя... Аўтаматыка... Канцэнтраты... Усё гэта, вядома, складаныя пытанні, — зазначыла адна са свінарак. — Ну, а ўзяць другую справу. Тут ужо Міністэрства сельскай гаспадаркі абвінавачваць не даводзіцца. Няўжо, напрыклад, прадстаўнік з Мінска павінен клапаціцца пра наш чырвоны куток? А паглядзіце, што ў ім робіцца.

На вокнах пыл — хоць малюй пальцамі. Холад. Сцены голыя. А дзе ж лістоўка-маланка, прысвечаная перадавым людзям?.. Дзе газеты, часопісы?.. А іх жа выпісваюць у саўгасе на сотні рублёў.

Увішная Тоня з дакорам зазначае:

— Ёсць каменьчыкі і ў ваш гарод. Неяк прыязджаў да нас фотакарэспандэнт. Гаворыць, хачу сфатаграфаваць перадавых свінарак у чырвоным кутку... Ідэя добрая, толькі куток у нас не таго... Але гэта не збянтэжыла карэспандэнта.

І свінаркі наперабой пачалі расказваць пра «дэкарацыю». Стол накрылі абрусам, з'явіліся часопісы з маляўнічымі вокладкамі. На вокнах заззялі напрасаваныя беленькія фіранкі. І нават электралямпачку ўвінцілі ў патрон. Цёпла, утульна, хораша.

— А навошта гэта?.. Зазнялі б чырвоны куток такім, які ён ёсць, няўтульным і брудным. Няхай народ глядзіць. Тады б, напэўна, і наш сакратар партыйнай арганізацыі Мікалай Аўдошка крыху задумаўся. Колькі разоў прыязджаў ён на ферму, а вось ні разу не заглянуў у чырвоны куток. А варта было...

Дагаварыць дзяўчыне не далі: пачалося кармленне свіней. Людзі працавалі хутка, спрытна. Адна за адной разгружалі ваганеткі з сіласам, бульбаю.

І вось, справа скончана.

— Дзяўчаты, пайшлі, — паклікала Тоня. — З карабля на баль...

Яна ўспомніла, што Ліля абяцала ў вольную хвіліну расказаць пра Маскву, пра Крэмль, пра новых знаёмых, вядомых свінарак нашай краіны, пра цікавую прамову Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, пра ўсё, чым жыла ў дні працы Пленума.

Узяўшыся за рукі, свінаркі пайшлі ў напрамку домікаў, што стаялі крыху на водшыбе ад жывёлагадоўчага гарадка. Над пасёлкам высока залунала ў марозным паветры звонкая песня...

Мы паехалі з саўгаса позна ўвечары. Шафёр, запрасіўшы нас у кабіну, з жалем прызнаўся:

— Дарожкі ў нас... Патрасе...

Машына лёгка прабегла мост і пайшла далей. Пачаліся выбоіны. Загрукалі ў кузаве запасныя скаты. Машыну кідала з боку ў бок. Вадзіцель пазіраў на стрэлку спідометра, нерваваўся.

— Не язда, а пакута. А ўвесну, браток, тут і зусім не праедзеш. Колькі разоў «загараць» даводзілася. А ўсё ж гэта кладзецца рублём на свініну, на малако, на бульбу і збожжа... Абыходзяцца нам саўгасаўскія дарогі ў капеечку, — са злосцю сказаў вадзіцель. — Вось табе і «амартызацыя» транспарту.

Дрэнныя дарогі і сабекошт цэнтнера свініны... Два гэтыя, здавалася б, розныя паняцці маюць простую ўзаемасувязь. Міжволі давялося прыгадаць сціпла прыбраную кватэру, у якой жыве Ліля Баравіцкая, сяброўак, што сабраліся да яе на агеньчык. Якраз больш за ўсё ішла ў гэты вечар гутарка пра сабекошт прадукцыі. Саўгасу цэнтнер свініны каштуе дзевяноста з лішкам рублёў. Нічога дзіўнага: слаба ўкараняецца механізацыя, шмат накладных выдаткаў, дорага каштуе кукуруза і, вядома, слаба выкарыстоўваецца аўтатранспарт, які часта прастойвае на рамонце.

Людзі працы намецілі шляхі росту, і, зразумела, больш гаварылі аб сваіх справах. Каб знізіць сабекошт прадукцыі, яны вырашылі ўсе працэсы працы праводзіць у адным комплексе. А дарогі?.. Пра іх таксама варта падумаць.

**М. СТАЛЯРОЎ.**

## Вынікі работы падказваюць

### ДАРАДЦЫ І ПАМОЧНІКІ

Без шырокай прапаганды літаратуры не могуць паспяхова працаваць работнікі кніжнага гандлю. У іх, як і ў бібліятэкараў, ёсць у гэтай справе добрыя памочнікі і дарадцы. Яны праводзяць гутаркі аб навінках літаратуры, дапамагаюць арганізоўваць кніжныя кірмашы, сустрэчы з наватарамі вытворчасці і пісьменнікамі.

Шмат добрых спраў па прапагандзе твораў беларускай музыкі робіць савет сяброў кнігі мінскага нотнага магазіна № 1, якім кіруе кампазітар М. Аладаў.

Такі ж самы савет працуе і пры мінскім магазіне навукова-тэхнічнай кнігі. Трыццаць два відныя вучоныя рэспублікі на чале з прафесарам, доктарам медыцынскіх навук Міхаілам Аляксандравічам Чалісавым дапамагаюць работнікам магазіна прапагандаваць літаратуру сярод пакупнікоў. Савет на чарговым пасяджэнні, якое адбылося на мінулым тыдні, абмеркаваў пытанне аб пашырэнні пазамагазінных форм гандлю. Летась пры актыўнай дапамозе кнігаптошаў і членаў савета магазін паспяхова правёў кніжныя кірмашы ў парках адпачынку імя Горкага і імя Чалюскінцаў і на такіх буйнейшых заводах, як падшыпнікавы, трактарны, запасных частак. Былі добра арганізаваны сустрэчы пакупнікоў з вучонымі і наватарамі вытворчасці. Цікава прайшоў Дзень кнігі па архітэктуры і будаўніцтву. Ад магазіна на прадпрыемствах і ва ўстановах працавала больш 20 кніганош. Усе гэтыя формы гандлю сябе апраўдалі. І не выпадкова работнікі магазіна і члены савета сяброў кнігі палічылі неабходным пагаварыць аб пашырэнні гэтай дзейснай формы рэалізацыі літаратуры.

Пазамагазінны гандаль займае значнае месца і ў рабоце мінскага кніжнага магазіна № 6, які ў сацыялістычным спаборніцтве вось ужо два кварталы ўтрымлівае пераходны Чырвоны сцяг Міністэрства культуры БССР і БРК прафсаюза работнікаў культуры.

Аднак не ўсе магазіны Мінскага аблкнігагандлю і не ўсе камсамольскія арганізацыі вобласці так уважліва ставяцца да работы грамадскіх распаўсюджвальнікаў літаратуры. Напрыклад, былая дырэкцыя Цэнтральнага кніжнага магазіна ўвесь год чакала, пакуль да іх прыйдуць кнігапошы. Тут, у адным з буйнейшых кніжных магазінаў рэспублікі, летась працавала толькі 13 грамадскіх распаўсюджвальнікаў літаратуры. Недаацэнка ролі грамадскіх распаўсюджвальнікаў кнігі ў значнай меры адбілася на тым, што магазін прадаў за мінулы год літаратуры на 250 тысяч рублёў менш, чым у 1959 г.

У адрыве ад актывістаў працавалі летась і работнікі кніжнага магазіна г. Слуцка. Загадчык гэтага магазіна т. Сівец не пашыраў пазамагазінныя метады гандлю, не трымаў цесную сувязь з раённай камсамольскай арганізацыяй. У Слуцку рэалізуецца кніг на душу насельніцтва ў тры разы менш, чым у Нясвіжы.

Праяўляла пасіўнасць і мінская гарадская камсамольская арганізацыя, якая абавязвалася прадаць у 1960 г. літаратуры на мільён рублёў, а выканала сваё абавязацельства ўсяго на дзевяць працэнтаў.

### ЗА ЛІЧБАЙ «ВАЛА»

Пры падвядзенні вынікаў работы таго ці іншага кніжнага магазіна звычайна звяртаюць увагу на выкананне плана па валавому збору. Праўда, за гэтым «валам» ёсць яшчэ дзве графы: рэалізацыя літаратуры і канцылярскія тавары. Вакол гэтых трох лічбаў заўсёды ідзе гаворка на сходах і нарадах кнігагандлёвых работнікаў. А пра вынікі рэалізацыі грамадска-палітычнай, сельскагаспадарчай, тэхнічнай, мастацкай літаратуры, у тым ліку і твораў беларускіх пісьменнікаў, гаворка вядзецца без канкрэтных лічбаў, накшталт: «мала ўдзяляецца ўвагі», «недастаткова актыўна», «нездавальняюча» і г. д.

Днямі праходзіў сход работнікаў Мінскага аблкнігагандлю. Ён падвёў вынікі работы за мінулы год і вызначыў задачы на бягучы год. На сходзе ішла шырокая размова аб знаходжанні дзейсных метадаў прапаганды і рэалізацыі ўсяго наяўнага асартыменту літаратуры. Вельмі слушна было пастаўлена пытанне аб тым, каб палепшыць афармленне заказаў на новую літаратуру і рэалізацыю кніг Беларускага дзяржаўнага выдавецтва. Аб гэтым гаварылася і ў дакладзе дырэктара аблкнігагандлю В. Трацэўскага, і ў прамове начальніка Галоўнага ўпраўлення кніжнага гандлю Міністэрства культуры БССР С. Патупчыка, і ў выступленнях удзельнікаў сходу. Прамоўцы асудзілі няправільны і шкодны для нашага пакупніка метад заказаў на кнігі. У прыватнасці, ішла гутарка аб магазіне № 9, які з тэматычнага плана Белдзяржвыдавецтва на 1961 г. па раздзелу грамадска-палітычнай літаратуры заказаў толькі трэцюю частку назваў кніг, а з раздзела мастацкай літаратуры — толькі адну чвэрць. Такі ж заганны метад заказу літаратуры па тэматычнаму плану Белдзяржвыдавецтва на гэты год выяўлен і ў магазіне № 12.

Гэта здараецца толькі таму, што некаторыя кіраўнікі магазінаў у пагоні за выкананнем «вала» імкнуцца заказваць больш «хадавую» кнігу і неахвотна працуюць з усім асартыментам літаратуры.

### ПЫТАННІ, ЯКІЯ ТРЭБА ВЫРАШАЦЬ

У Мінску яшчэ мала кніжных магазінаў. У Фрунзенскім раёне іх зусім няма, калі не лічыць на цагельным заводзе № 2 невялічкага пакойчыка для продажу кніг, які пакупнікі называюць кіёскам.

У самай звычайнай кватэры, памер якой складае не больш 25 квадратных метраў, знаходзіцца магазін № 9 у раёне трактарнага завода. Калі ўпершыню адчыняеш дзверы гэтай кнігарні, дык адразу хочацца прасіць прабачэння за тое, што ты, відаць, выпадкова трапіў на склад. Але прылаўкі і кніжная паліца, даўжыня якой складае не больш шасці метраў, сведчаць, што тут знаходзіцца магазін. Цюкамі кніг, канцылярскімі таварамі тут завалены падаконнікі і падлога. Дырэктар магазіна т. Мелікаў расказвае:

— Шосты год мы знаходзімся ў гэтай кватэры. Шосты год нам абяцаюць даць добрае памяшканне, дзе можна па-сапраўднаму наладзіць гандаль кнігай.

У цесным пакоі працуе і кніжны магазін № 3 на аўтазаводзе.

Кніжны кіёск па канструкцыі нічым не адрозніваецца ад тых кіёскаў, дзе прадаюць марожанае, прамысловыя тавары, кандытарскія вырабы, піва і воды. Праўда, нядаўна «Саюздрук» паставіў у горадзе 10 новых кіёскаў для продажу выданняў перыядычнага друку. Яны знешне прыгожыя і зручныя толькі для продажу газет і часопісаў. Для кніг такія кіёскі зусім не падыходзяць. У летнія месяцы літаратура, якая паляжыць тры — чатыры дні ў вітрыне, пачне псавацца ад праменняў сонца.

Мінскі аблкнігагандаль даўно хоча мець для сталіцы спецыяльныя кіёскі па продажу кніг. Ёсць на гэта і сродкі, але ўся бяда ў тым, што ніхто не бярэцца за выкананне такога заказу. Не адпавядаюць прызначэнню і столікі для продажу кніг. Трэба, каб наш Саўнаргас уключыў у план якога-небудзь свайго прадпрыемства і выраб абсталявання для кнігагандлю.

### У ВІТРЫНАХ КІЁСКАЎ

Мы пацікавіліся работай кніжных кіёскаў і столікаў, якія ёсць на вуліцах, у многіх прамтаварных і харчовых магазінах горада. Аказалася, што амаль усе яны запоўнены аднолькавай літаратурай. Гэта кнігі аб смачнай і здаровай ежы, вышыванні, карысных парадах, модах...

Калі, скажам, пакупнік пабываў ля аднаго кіёска ці століка, дык ля другога не прыпыніцца. Ён ведае, што і асартымент мастацкай літаратуры тут усюды амаль аднолькавы: навінкі савецкай літаратуры сустракаюцца рэдка.

На століках, якія працуюць у магазінах ювелірных вырабаў і кандытарскім па праспекту імя Сталіна, у прамтаварным — на Прывакзальнай плошчы, нідзе мы не ўбачылі твораў беларускіх пісьменнікаў. Цяжка іх знайсці і ў кіёсках. З сотні кніг, якія паказаны пакупніку ў вітрыне і на прылаўцы кіёска, што знаходзіцца ва ўнівермагу, мы ўбачылі толькі першы том твораў Янкі Маўра.

На рагу вуліц Ленінскай і праспекта імя Сталіна працуе кіёск № 2. Тут сярод 83 кніг, якія выстаўлены ў вітрыне, толькі адна беларуская — «Дзед Талаш» Якуба Коласа. А ў кіёсках № 4 і № 18 зусім не аказалася ніводнай кнігі беларускіх пісьменнікаў.

Чаму ж у кіёсках не прадаюць беларускія выданні?

Вось што гаворыць кіяскёр С. Леўшыц:

— Кнігі І. Шамякіна «Крыніцы», «Трывожнае шчасце» разыходзяцца дзесяткамі, але мне іх мала даюць. У апошнія дні многія пытаюцца, дзе набыць паэму Якуба Коласа «Новая зямля». А ў нас няма ніводнага экземпляра. Часта і вершы просяць, асабліва Янкі Купалы, Пятра Глебкі, Пімена Панчанкі і некаторых маладых паэтаў. На жаль, гэтыя просьбы мы не задавальняем.

І гэта ў той час, калі на складах аблкнігагандлю такая літаратура ёсць! Між іншым у руплівых і дасціпных кіяскёраў выбар кніг больш шырокі. Таму і вынікі іх работы лепшыя.

На вуліцы Энгельса ў кіёску ад магазіна № 11 працуе т. Бяркові. Летась яна прадала мастацкай літаратуры на 102 тысячы рублёў. Пакупнік тут заўсёды можа знайсці многія кнігі пісьменнікаў.

Або ўзяць, напрыклад, кніжны столік (гастраном № 13), дзе прадаўцом працуе Я. Захарава. Летась яна прадала літаратуры больш чым на 70 тысяч рублёў. Значная частка выручкі атрымана ад беларускіх выданняў. І цяпер на яе століку акуратна раскладзены творы Я. Коласа, Зм. Бядулі, І. Шамякіна, П. Панчанкі, І. Мележа.

Вось якія кантрасты!

Побач з вопытнымі работнікамі за кніжнымі прылаўкамі часам стаяць людзі, якія самі не любяць, не чытаюць, не ўмеюць прапагандаваць кнігу. Ім усё роўна, што рабіць: учора прадавалі мыла, сёння — літаратуру. Самая простая рэч — напісаць на лісце паперы назвы навінак. Пачытае чалавек і выбярэ, што яму трэба. Калі кіяскёры прадавалі школьныя падручнікі, такія спісы былі. А цяпер — няма.

Намеснік дырэктара Цэнтральнага кніжнага магазіна В. Годас з задавальненнем паказаў нам графік, згодна якому з кнігапрадаўцамі кожную пятніцу ў аддзелах павінны праводзіцца агляды новых кніг. Задума добрая, але на гэтых аглядах многія работнікі не прысутнічаюць.

На ўскраінах Мінска, у раёнах новай забудовы, кніжных кіёскаў мала. А ў цэнтры — яны перагружаны літаратурай. Мы ўжо не гаворым аб тым, што ў радзе кіёскаў не створана неабходных умоў для работы: холадна, цесна.

І не дзіва, што многія кіяскёры часта не выконваюць сваіх планаў па рэалізацыі літаратуры.

* * *

Па-сапраўднаму весці прапаганду і рэалізацыю літаратуры можна толькі пры правільнай і ўсебаковай рабоце з усім асартыментам кніг. Вынікі работы Мінскага аблкнігагандлю за мінулы год сведчаць, што пашырэнне пазамагазінных метадаў гандлю і цесная сувязь з грамадскімі прапагандыстамі кнігі павінна быць у цэнтры работы кніжных магазінаў.

**А. МАХНАЧ.**
**А. БЕЛАВУС.**

## Выдатны кіяскёр

Екацярына Маркаўна Арэшчанка вось ужо сем год працуе ў кіёску Віцебскага гарадскога аддзела «Саюздруку». Яна шмат чытае мастацкай літаратуры, вывучае перадавы вопыт прапаганды кнігі.

— Першы час было шмат цяжкасцей, — расказвае кіяскёр. — План тавараабароту не выконваўся. А цяпер на працягу шасці год амаль не было выпадкаў невыканання месячных і квартальных планаў.

Калі разгарнуўся рух за званне ўдарнікаў камуністычнай працы, Е. Арэшчанка вырашыла не адставаць ад вялікай усенароднай справы. За гэтае высокае званне яна змагалася ў мінулым годзе. І вось вынікі: летась да 20 лістапада яна выканала гадавы план. Цяпер перадавому кіяскёру прысвоена ганаровае званне ўдарніка камуністычнай працы.

Літаратура на паліцах кіёска не залежваецца.

Екацярына Маркаўна гаворыць:

— Кожная кніга знаходзіць свайго чытача. Гэта праўда. Але яе ўмела трэба прапагандаваць. Чытачу няма справы, як у нас тут і што. Вось сёння прыходзілі двое з вёскі. Адзін проста пакрыўдзіўся, што не было для яго патрэбнай кніжкі.

— Вы не пакрыўдзіліся на гэтага патрабавальнага пакупніка?—пытаўся я.

— Што вы... крыўдзіцца, як можна. Ды я на яго месцы тое самае сказала б. Не хапае яшчэ ў нас добрых кніг. Чытач вырас. І ты яму падавай добрую кнігу. Вось вам прыклад: неяк я атрымала 12 экземпляраў рамана «Крыніцы» І. Шамякіна, некалькі кніг М. Клімковіча і П. Панчанкі, дык яны ў момант былі прададзены. Калі часопіс «Маладосць» пачаў выходзіць з дадаткам, яго больш пачалі купляць. Калі друкуюцца ў часопісах добрыя вершы, апавяданні, тады цікавасць да іх узрастае.

**Ю. ДОКТАРАЎ.**

**На здымку:** ударнік камуністычнай працы кіяскёр Екацярына Маркаўна **Арэшчанка** за працай.

Фота **М. Кузняцова.**

## Насустрач з'езду

У Саюзе пісьменнікаў БССР адбыўся адкрыты партыйны сход. Уражаннямі аб рабоце студзеньскага Пленума ЦК КПСС падзяліўся на ім з прысутнымі прэзідэнт сельскагаспадарчай Акадэміі навук БССР акадэмік І. Лупіновіч.

З дакладам аб выніках студзеньскага Пленума ЦК КПСС і задачах беларускіх пісьменнікаў выступіў І. Дуброўскі. Ён адзначыў, што нашы пісьменнікі заўсёды ішлі ў нагу з жыццём, у сваіх творах шырока адлюстроўвалі рэчаіснасць. Цяпер, пасля студзеньскага Пленума ЦК КПСС, у краіне праводзяцца вялікія мерапрыемствы, накіраваныя на далейшы ўздым сельскай гаспадаркі. Краіна ідзе насустрач XXII з'езду партыі. Пісьменнікі Савецкай Беларусі не застануцца ў баку ад імклівага поступу нашага жыцця. Яны павінны падумаць, з чым прыйдуць да важнай падзеі ў жыцці нашай краіны.

На чаргу дня стала пытанне аб шырокім удзеле пісьменнікаў у напісанні нарысаў аб героях нашых дзён, бо нарыс не заняў яшчэ свайго заслужанага месца на старонках перыядычных выданняў. А праца над ім прыносіць карысць не толькі нашай агульнай справе, але і самому пісьменніку: прымушае яго вывучаць жыццё, людзей.

— Нам, пісьменнікам, трэба змагацца з усім тым, што стрымлівае развіццё нашай гаспадаркі, ускрываць прычыны недахопаў, — сказаў у сваім выступленні П. Пестрак.

І. Шамякін адзначыў, што пісьменнікі павінны клапаціцца аб мастацкай якасці твораў. Трэба пастаянна весці аб гэтым размову на старонках нашых газет.

Пленум адкрыў многа канфліктаў. Пісьменнікі не павінны лакіраваць жыццё. Трэба адкінуць умоўныя і сцёртыя канфлікты, трэба ўзнімаць праблемы, якія хвалююць народ, — сказаў Р. Сабаленка.

Пісьменнік павінен быць патрабавальным не толькі да жыцця, але і да сябе. Задача крытыкі — дапамагаць, накіроўваць яго творчасць. Толькі ў выніку прынцыповых, страсных адносін да жыцця можна стварыць сапраўды высокамастацкія, патрэбныя народу творы. Аб гэтым гаварылі ў сваіх выступленнях А. Макаёнак, М. Хведаровіч, А. Маўзон, А. Асіпенка і інш.

На сходзе аднадушна былі зацверджаны мерапрыемствы пісьменніцкай арганізацыі па падрыхтоўцы да XXII з'езду партыі, гэта — напісанне серыі нарысаў «Героі нашых дзён», арганізацыя шэфскіх сустрэч на новабудоўлях рэспублікі, удзел у рабоце раённых універсітэтаў культуры, сустрэчы з маладымі пісьменнікамі абласных гарадоў. Паэты павінны напісаць добрыя песні аб нашым сённяшнім дні.

# ПЕРШЫ КРОК

Беларускія тэлегледачы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з вучэбнай пастаноўкай тэлевізійнай драматычнай студыі па п'есе А. Арбузава «Гады вандраванняў» (рэжысёр А. Гуткові).

Знамянальны ўжо сам факт, што ролі ў гэтай п'есе, не лёгкай для ўвасаблення нават на прафесіянальнай сцэне, выконвалі самадзейныя артысты—рабочыя і служачыя мінскіх прадпрыемстваў і ўстаноў.

Перад рэжысёрам стаяла складаная задача: у межах творчых магчымасцей малавопытных выканаўцаў — людзей з розным узроўнем ведаў і агульнай культуры — перадаць больш-менш выразна стрыжнявыя лініі драматычнага твора.

Выканаўцы даволі ўпэўнена адчуваюць сябе перад аб'ектывам камеры. Як вучэбная пастаноўка, гэтая работа тэлевізійнай драматычнай студыі мае шэраг творчых удач.

Жыццёвымі рысамі прываблівае выкананне ролей цёці Тасі (музычны кіраўнік дзіцячага сада А. Крахмалава), вадзіцеля машыны Бочкіна (токар-фрэзероўшчык Я. Лютаў), старшага сяржанта Салдаценкава (слесар-механік І. Самусенка), артылерыста (слесар І. Лебедзеў), Зойкі Талаконцавай (фрэзероўшчыца Л. Малішэўская), прахожага (тэхнік-інструктар С. Акімушкін).

Галоўныя вобразы спектакля выкананы з рознай, але ў цэлым не вельмі высокай ступенню пранікнення ў сутнасць характараў.

Вядзернікаў (слесар М. Паўлаў) больш-менш жыццёвы ў сцэне, калі ў сшытку Паўліка Тучкова знаходзіць штуршок да адкрыцця, у сцэне ад'езду Вольгі на фронт. Лаўрухін (інжынер Н. Агейчык) найбольш блізкі да задумы драматурга ў сцэне размовы пра шпіталь з Люсяй.

Паўліка Тучкова іграў таваразнаўца Л. Свінарэнка, Мікіту Аляксеевіча Архіпава — настройшчык тэлевізараў радыёзавода Г. Цімірзін, Люсю Вядзернікаву—шліфоўшчыца Т. Гурская, Галіну — сакратар камітэта камсамола інструментальнага завода Т. Прывалава, Вольгу — бібліёграф Р. Яроміна, Ніну — чарцёжніца Э. Маневіч.

Жаночыя вобразы ў спектаклі мала чым вызначыліся.

Выканаўцы ролей Лаўрухіна і Тучкова, як і большасць астатніх, — рэзанёры, якія добрасумленна перадаюць тэкст.

Тое ж можна сказаць і пра ролі Алега Дароніна (слесар-механік В. Крайко), Кузі (механазборшчыца радыёзавода В. Марозава), дзяўчыны з цэха (абмотчыца П. Нашлінас), трох салдат (Я. Лютаў, слесар В. Настабурка, цясляр Р. Казырыцкі).

Памылковым уяўляецца нам выбар п'есы для вучэбнай пастаноўкі. Твор А. Арбузава «Гады вандраванняў», які адказвае на па-дзіцячы наіўнае, але ў той жа час па-даросламу сур'ёзнае пытанне: «Куды ідуць усе дні?», — адзін з узораў савецкай драматургіі, багаты падтэкстам, хвалюючымі складанымі вобразамі, парадзенымі са шматлікімі псіхалагічнымі нюансамі.

Самадзейны калектыў не здолеў дабіцца (і ён не мог дабіцца пры цяперашнім узроўні майстэрства!), каб п'еса прагучала шматпланава, з усімі яе падтэкстамі і нюансамі. Сумленна перадаючы тэкст, выканаўцы толькі абазначаюць пачуцці, рэдка дзе дамагаючыся паўнацэннага гучання думак драматурга. У выніку цікавая п'еса на тэлеэкране здаецца расцягнутай.

Няправільна, на наш погляд, браць для вучэбнай работы «поўнаметражны» твор на дадзеным этапе выхавання калектыву. Куды больш поспехаў дамагліся б выканаўцы і рэжысёр у пастаноўцы аднаактовых твораў або скарочаных варыянтаў «поўнаметражных» п'ес. Ёсць багата аднаактовак і ў сённяшняй беларускай драматургіі, і ў класіцы. І творчыя задачы паўставалі б перад рэжысурай і выканаўцамі не менш складаныя і павучальныя, чым у гэтай рабоце. Аднак вынікі маглі б быць лепшыя.

У прынцыпе трэба вітаць ініцыятыву тэлестудыі па стварэнню сваёй тэатральнай групы з лепшых сіл мастацкай самадзейнасці. Магчыма, гэтая група ў далейшым можа вырасці ў цікавы народны тэатр пры тэлестудыі. Але паказаная работа — толькі першы крок у гэтай справе, толькі першая спроба, якая паказала цікавыя і слабыя бакі арганізацыі тэатральнай групы. Трэба, відаць, больш старанна шукаць народныя таленты, якіх ёсць нямала, і працаваць з імі метадычна, не спяшаючыся, даваць ім пасільныя творчыя заданні.

Ул. БОЙКА.



Сцэна з тэлевізійнага спектакля па п'есе «Гады вандраванняў» А. Арбузава.

**У ролях:** Галіны — сакратар камсамольскай арганізацыі інструментальнага завода **Т. Прывалава**, Вольгі — бібліёграф **Р. Яроміна**, Лаўрухіна — інжынер па тэхніцы бяспекі трактарнага завода **Н. Агейчык**.

Фота С. Чырэшкіна.

# ЯКУБ БРАЙЦАЎ

*ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ*

У сялянскай сям'і ў вёсцы Забялышыне былога Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні 19 лютага 1861 г. нарадзіўся Якуб Раманавіч Брайцаў. Яго бацькі з усіх сіл стараліся, каб як найлепш выхаваць сына, даць яму адукацыю. У роднай вёсцы хлопчык Якуб скончыў пачатковую школу. Пасля вучыўся ў Клімавіцкім павятовым вучылішчы.

Некаторы час пасля вучобы ён працуе памочнікам пісара Забялышынскага валаснога ўпраўлення, а неўзабаве канторшчыкам цукровага завода на Украіне ў памешчыка Цярэшчанкі.

Калі Якубу споўнілася дваццаць год, ён едзе шукаць шчасця ў Маскву. У канторы вядомага ў той час купца-кветкавода Ф. Ноева ён хутка атрымаў пасаду бухгалтара. Адначасова Я. Брайцаў вывучае мастацкую літаратуру, часта наведвае Румянцаўскую бібліятэку і піша аповесць «Багачы». У гэтым творы пісьменнік праўдзіва адлюстраваў жыццё сялян пасля рэформы на Магілёўшчыне. Акадэмік Я. Карскі ў трэцім томе сваёй работы «Беларусы» адзначыў, што гэта таленавіта напісаная аповесць.

У аповесцях «Няўдашачка Анюта» (1887), «Старая вёска» і іншых расказваецца пра быт і тыпы Клімаўшчыны. Паказваючы беспрасветную цемру, несправядлівасць, галечу, пісьменнік ускладаў вялікую надзею на будучыню. Нібы дэвізам, аптымістычна, радасна, з вялікаю надзеяй гучаць апошнія радкі аповесці «Няўдашачка Анюта» — «Усё — за жыццё, і нічога — супраць!»

У апавяданні «Юда» (1899), якое аўтар назваў псіхалагічным эцюдам, мы ўжо знаходзім крытыку тагачаснага ладу, філасофскае разважанне аб рэчаіснасці.

У далейшым Я. Брайцаў бярэцца за адвакацкую працу, адначасова вывучае кветкаводства і нават адкрывае ў Маскве магазін па продажу кветак. Але на гандлёвай справе ён хутка прагарэў, страціў усе матэрыяльныя сродкі, якія збіраў з вялікімі цяжкасцямі. Зборнік яго апавяданняў, які ўжо быў набраны ў друкарні, праз гэта так і не ўбачыў свету.

Пасля дваццацігадовага пражывання ў Маскве Я. Брайцаў зноў вяртаецца ў родныя мясціны, бярэцца за сельскую гаспадарку, а пасля за адвакацкую працу па сялянскіх справах.

У 1905 г. у часы рэвалюцыйных падзей у пісьменніка знаходзяць нелегальную літаратуру, за што ён і трапляе пад нагляд паліцыі. У гэтыя ж часы ім была напісана камедыя «Бяда цыгана», у якой расказваецца пра падзеі ў глухой мясцовасці Беларусі.

Пра жыццё беларускай вёскі і мястэчак у перыяд першай рускай рэвалюцыі напісан пісьменнікам вялікі раман «Сярод балот і лясоў» (1913—1916).

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Я. Брайцаў працуе ў павятовым Клімавіцкім выканкоме, у дваццатых гадах быў членам калегіі аддзела сацыяльнай абароны, а пасля членам калегіі зямельнага аддзела. У 1925—1927 гг. ён працаваў выкладчыкам у Забялышынскай школе сялянскай моладзі.

Якуб Раманавіч у гэты час не пакідае і літаратурнай працы, піша артыкулы ў «Крестьянскую газету», напісаў аповесць «Гаспадар» і шэраг вершаў. Ён быў членам Усерасійскага Саюза сялянскіх пісьменнікаў.

Якуб Брайцаў пачаў літаратурны шлях тады, калі беларуская мова была забаронена. Таму ён пісаў па-руску. Але свае творы аўтар перасыпае беларусізмамі («працуй», «хвароба», «погляд», «ланцуг», «страха», «дробны», «туга», «жартаваць», «хлопцы», «бульба» і г. д.), беларускімі прыказкамі і прымаўкамі.

Памёр пісьменнік 2 сакавіка 1931 г. у Забялышынскай бальніцы і пахаваны на мясцовых могілках.

Рукапісы пісьменніка знаходзяцца ў яго сына Васіля Якубавіча Брайцава, маскоўскага прафесара.

Варта, каб спадчынай Якуба Брайцава зацікавіліся нашы літаратуразнаўцы, а Цэнтральны архіў БССР набыў рукапісы пісьменніка і даў магчымасць вывучаць іх нашым вучоным і пісьменнікам.

С. КОЙДАНАЎСКІ.

# СУЧАСНАСЦЬ І ГІСТОРЫЯ

Шчыра прызнаемся: мы даўно чакалі сёлетняй сустрэчы з коласаўцамі, мастацтва якіх заслужана прызнана шырокімі коламі гледачоў.

Каму не вядома слава тэатра—першаадкрывальніка нацыянальных талентаў у драматургіі, выхавальніка маладых акцёраў, тэатра крылатай і вострай рэжысёрскай думкі і знітаванага творчага ансамбля. Кожны сезон звычайна пацвярджае станоўчую рэпутацыю калектыву, прыносіць новыя эстэтычныя радасці яго сябрам і прыхільнікам. Аднак нельга сказаць, што здабыткі даюцца коласаўцам лёгка, без высокага напружання творчай энергіі і дапытлівых пошукаў, і што заўсёды пошукі калектыву канчаюцца бясспрэчнымі перамогамі. Бываюць у тэатра сапраўдныя ўзлёты, але не мінае яго і горыч нязздзейсненых задум.

І на гэты раз мы пераканаліся, што тэатр не спыніў пошукаў, асабліва ва ўзбагачэнні рэжысёрскага і акцёрскага майстэрства, хоць рэпертуар яго бездакорны.

## Здабыткі і страты

Можа і не варта было такому салідНаму тэатру траціць эмацыянальны запал на празмерна «лёгкую» па думцы і сентыментальную па настрою лірычную камедыю «Заводскія хлопцы». Нават і ў гэтым жанры можна было знайсці больш значныя творы аб цудоўнай савецкай моладзі, яе жыццёвых ідэалах і пачуццях. Але здараецца, што, паклаўшы ў аснову спектакля недасканалую або спрэчную п'есу (што ўвогуле непажадана), творчы калектыў сваім талентам і майстэрствам выразна акцэнтуе станоўчае ў ёй і гэтым змяншае адмоўнае і слабое.

Спектакль коласаўцаў (рэжысёр Ю. Собалеў, мастак Н. Іванова) больш шырокага эмацыянальнага дыхання, глыбейшы па думцы, чым п'еса. Многае недагаворанае, недакладна і няўдала раскрытае ў п'есе, дапоўнена багатым мастацкім уяўленнем, натхненнем і эстэтычным густам рэжысуры і акцёраў.

Перш-наперш варта сказаць пра творча актыўную рэжысуру і яе вобразнае бачанне спектакля. Мы тут зноў адчулі жыццёвасць крылатай думкі Маякоўскага аб тым, што тэатр «не люстэрка, якое адлюстроўвае, а павелічальнае шкло».

Рэжысура бывае розная. Аб той, якая запалонена нуднымі схемамі і штампамі, застарэлымі нежыццёвымі традыцыямі, аднойчы вельмі трапна сказаў Г. Таўстаногаў: «Сустракаюцца сярод нас такія... рэжысёры, якія выяўляюць рамантыку нашых дзён сродкамі вонкавай рытарычнасці, суровую праўду нашага жыцця—сродкамі французскай меладрамы канца мінулага стагоддзя, а характво нашых дзён — сродкамі дэкадэнцкага стылізатарства старажытнасці мастакоў з «мира искусства».

Малады рэжысёр і мастак тэатра ў згодзе з плённымі рэалістычнымі традыцыямі коласаўцаў сталі на іншы, больш пэўны шлях.

У зрокавым вобразе спектакля многа паветра, сонца, цёплых, жыццярадасных фарбаў. Гэта адпавядае яго агульнаму аптымістычнаму настрою і лірыка-камедыйнаму тэмпа-рытму. Рысы надрыўнай меладрамы і стыляжнай экзотыкі, якія ёсць у п'есе, прыглушаны настолькі, наколькі гэта дазваляў літаратурны тэкст.

На першым плане ў спектаклі іншыя, больш мажорныя акцэнты—светлая, аптымістычная лірыка, цёплы гумар, шчодрасць і шчырасць палымяных юнацкіх сэрцаў. Яны не трацяць любоў да жыцця і адчуваюць вялікую сілу калектыву нават у складаных акалічнасцях, калі хлопцы і дзяўчаты, ратуючы жыццё юнака, апынуліся на бальнічных ложках.

Добра прагучала ў спектаклі тэма высакароднасці і гуманнасці прафесіі савецкага ўрача, перамогі смеласці і наватарства ў медыцыне над коснасцю і абыякавасцю.

У сюжэтным «трохкутніку» Мішы (Ф. Марцынкевіч), Вані (О. Лапо) і Шуры (Г. Маркіна) тэма рэўнасці адступіла на другі план перад галоўнай тэмай самаадданага сяброўства і сапраўднага, шчырага кахання.

У спектаклі цікавыя не столькі няўдалае мінулае і калючы характар Вані, колькі яго адвага і вернасць сваім пачуццям, перавыхаванне героя пад іх уплывам. Іменна ў гэтым станоўчая асаблівасць вобраза, створанага О. Лапо. Заслугоўвае прызнання цёплая інтанацыя сяброўства і адданасці маладзёжнаму калектыву, якая афарбоўвае псіхалагічны партрэт гераіні Г. Маркінай і робіць яе прывабнай. Ёсць і іншыя творчыя ўдачы ў выканаўцаў ролей маладых герояў. У такім жа плане паказу высакароднай савецкай маралі і гуманнасці сыграны сцэны ў хірургічнай клініцы больш сталымі майстрамі М. Звездачотавым (Крупін) і Л. Мацісавай (Анісава).

Вельмі добра, што тэатр імкнуўся тыпізаваць лепшыя рысы савецкіх людзей, паказаць іх праз мастацкае «павелічальнае шкло», пазбавіць герояў таннага меладраматызму і ружовай сентыментальнасці.

І ўсё ж спектакль не зусім задавальняе патрабавальнага савецкага гледача банальнасцю многіх старонак літаратурнага тэксту п'есы, адсутнасцю дастаткова глыбокіх і разнастайных характараў, неарыгінальнасцю канфліктаў. Нямнога дадзена аўтарам п'есы акцёрам для таго, каб іграць не проста добрых юнакоў і дзяўчат наогул, а іменна заводскіх хлопцаў. Назва п'есы больш гучыць як мянушка, чым як істотны элемент псіхалагічнага партрэта моладзі, бо ніякіх сур'ёзных падзей з героямі ў працэсе вытворчасці не адбываецца.

## Герой і калектыў

Сапраўднае мастацтва не сумяшчальна са спектаклямі-блізнятамі, спектаклямі-копіямі, варыяцыямі ўжо вядомых сцэнічных твораў. Кожны сталы тэатр самастойна, па-свойму прачытвае драму, знаходзіць у ёй думкі, асабліва блізкія яго калектыву.

«Востраў Афрадзіты» ў коласаўцаў не падобны па сцэнічнаму вырашэнню да цікавага спектакля купалаўцаў. У спектаклі віцяблян—уласнае мастацкае аблічча, свае псіхалагічныя інтанацыі. У сувязі з гэтым спектаклем і яго рэжысурай варта прыгадаць размову на старонках усесаюзнага друку аб тым, што з'яўляецца тыповым для сучаснага савецкага тэатра—спектакль аднаго галоўнага героя, якому «акампаніруе» ансамбль, або сцэнічны твор, дзе актыўна і роўна дзейнічае ўвесь творчы калектыў.

Нам здаецца больш прынцыповай пазіцыя рэжысёраў, якія дамагаюцца драматызму сучаснага спектакля на аснове ўсяго кантэксту п'есы, дзейснай творчай думкі ўсіх персанажаў. Вядома, што ў найбольш таленавітых спектаклях сучаснага тэатра хвалюе ўвесь ансамбль, а не толькі цэнтральны герой. Спектакль мае поспех, калі драматычныя перажыванні выказаны не толькі самім героем, але знаходзяць адлюстраванне таксама ў думках і паводзінах іншых дзеючых асоб. Спектакль «Востраў Афрадзіты» (рэжысёр Ю. Собалеў, мастак А. Грыгар'янц) належыць да такіх сцэнічных твораў, дзе выразна гучыць калектыўны акцёрскі голас. Гэта, зразумела, не выключае і яркіх індывідуальных удач.

Галоўнае, што вабіць у спектаклі,—выкрывальны пафас і баявы тэмперамент, вострая антыкаланіяльная накіраванасць. Адчуваецца сугучнасць ідэй і эмоцый сцэнічнага твора сур'ёзным міжнародным падзеям, якія ў нашы дні адбываюцца ў Конга, Лаосе, на Кубе і ў іншых краінах, дзе народ узняў свой гнеў супраць каланіялістаў. Спектакль па ўсяму настрою не абмежаваны барацьбой кіпрыётаў супраць жорсткага англійскага імперыялізму.

Тэатр не столькі паглыбіўся ў асабістае перажыванне галоўнай гераіні, у яе душэўную драму страты любага сына, колькі аддаў роўную ўвагу ўсім героям, раскрыццю сучаснага грамадскага гучання ідэй і вобразаў п'есы. І разам з тым вобраз Кір'якулі ад такога сцэнічнага вырашэння не страціў псіхалагічнай пераканальнасці і мастацкай выразнасці.

У чым своеасаблівасць вобраза, з якім нас пазнаёміла М. Бялінская? Мы бачым яе ў асаблівым акцэнце на тым, што многія праблемы, якія хвалююць палымяную кіпрыётку, яе грамадскія і асабістыя ідэалы могуць быць здзейснены толькі ў арганічнай еднасці гераіні з народам, у тым, што яе дзеянні, думкі і эмоцыі адлюстроўваюць імкненне і настрой усяго народа. І хоць Кір'якулі часта хвалююча гаворыць пра абавязак і сэрца маці, мы, аднак, разумеем, што гераіня М. Бялінскай не толькі маці свайго сына-рэвалюцыянера. Яе клопат больш вялікі і аддадзены лёсу ўсіх прыгнечаных юнакоў і дзяўчат Кіпра. У гэтым, як слушна акцэнтуе артыстка, Ламбрыні знаходзіць душэўныя сілы для таго, каб мужна перанесці жахлівую сямейную трагедыю—смерць любімага сына. Такая «лейттэма», асноўнае «зерне» вобраза М. Бялінскай.

Гэты вобраз у кожным тэатры, у тым ліку і ў коласаўцаў, дае падставу для размовы аб вытоках сапраўднага акцёрскага майстэрства. Артыстка М. Бялінская ў вобразе Кір'якулі аддае выключную ўвагу сцэнічнай выразнасці слова-думкі, слова-эмоцыі. Аднак яна разумее, што дзейснасць слова не будзе поўнай беззмястоўных паўз і падтэксту. Артыстка раскрывае падтэкст з дапамогай мелодыкі галасавых інтанацый, пластыкі і ўсім рытмам жыцця гераіні на сцэне. Выразнасць слова арганічна з'яднана з «фізічнымі дзеяннямі» артысткі ў ролі. У гэтым сінтэзе, а не ў празмерна завостранай падачы гуку, руху і жэстаў М. Бялінская дасягае тыпізацыі сцэнічнага характару.

Нельга было б успрыняць усю глыбіню драматычных перажыванняў кіпрыёткі, калі б артыстка не валодала «ўнутраным маналогам» і не разумела прыроды тэмпераменту гераіні. У вобразе Ламбрыні М. Бялінскай мы выразна адчулі душу гераіні, стыль яе мыслення і рытм жыцця, напружаны і цёплы позірк вачэй, радасную і сумную ўсмешку высакароднай маці і змагара.

З такой жа душэўнай шчодрасцю мякка і цёпла сыграна роля Вікі А. Мельдзюковай. Нам думаецца, што гэта другі па значэнню вобраз у спектаклі. І гэты вобраз дадзены не ў статыцы, а ў руху, у развіцці і канчатковым станаўленні. Калісьці Ул. Неміровіч-Данчанка гаварыў, што глядач хоча сам у тэатры ўгадваць, распазнаваць вобраз і калі гэтай творчай патрэбы артыст яго пазбаўляе, глядач становіцца пасіўным. Манера жыцця А. Мельдзюковай у вобразе выклікае неабходнасць думаць пра гераіню, пра яе сучасны лёс і будучыню. Артыстка паступова знаёміць нас з душэўнымі імкненнямі дзяўчыны, для якой юнак Дэві—увасабленне светлага і цудоўнага ў жыцці. Для яго Вікі гатовая на самаахвярнасць. Сціпласць і лагоднасць спалучаюцца ў сцэнічным характары дзяўчыны з загартаванай воляй і рашучасцю ў абароне жыццёвых ідэалаў. Гэта простая маладая жанчына, але з надзвычай чулай і высакароднай натурай. І ніхто не здолее прымусіць Віку збочыць з таго шляху, на які яе кліча сумленне і гарачае пачуццё. Такі прывабны вобраз складваецца ў свядомасці гледача на працягу спектакля.

Хоць мы і не прыхільнікі строгага амплуа, аднак нельга пры размеркаванні ролей не ўлічваць магчымасці артыста. Бытавая артыстка Я. Глебаўская нібы знянацку трапіла на ролю ледзі Патарсан. Ледзі—халодная і абыякавая, ганарлівая англійская арыстакратка. Гэта павінна знайсці належнае адлюстраванне не толькі ў псіхалагічным партрэце гераіні, але і ў галасавых інтанацыях, у манеры гаворкі, рухах, жэстах і паставе Патарсан. Але такога плана вобраз не ўласцівы творчаму тэмпераменту Я. Глебаўскай, і яна спрасціла яго, сыграла ў неарганічнай ролі танальнасці, чым і нанесла страту глыбіні псіхалагічнага і сацыяльнага канфлікту, які разгортваецца паміж дзвюма маці.

Спектакль у асноўных рысах ансамблевы. Гэтаму спрыяюць сардэчнасць і суровая засяроджанасць Тэафіліса (Я. Буракоў), псіхалагічная выразнасць характару Дэві (Я. Шабан), сатырычная завостранасць сцэнічных партрэтаў Кэт (Л. Мацісава), Маклея (А. Трус), Ральфа (С. Казлоў) і іншых вобразаў.

## Почырк рэжысёра

Рэпертуар коласаўцаў у асноўным надзённы, сучасны. У гэтым галоўная прычына прыхільнасці да іх гледача. Аднак тэатр часам ставіць творы і пра мінулае беларускага народа, пра яго барацьбу з ворагамі. У спек-

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ГЛЕДАЧЫ АБ ВЫСТАЎЦЫ

# Дэталі падводзяць

Шматлікія гледачы наведваюць рэспубліканскую мастацкую выстаўку. Што ж, цікавіцца ёсць чым: у музеі экспануюцца разнастайныя творы беларускіх мастакоў. Многія з іх запамінаюцца, хвалююць. Аднак у некаторых карцінах не адчуваецца жыццёвай праўды.

Мне хочацца сказаць некалькі слоў пра карціны на тэмы калгаснага жыцця. Некаторыя дэталі гэтых карцін так кідаюцца ў вочы, што можна не быць прафесіяналам, каб заўважыць памылкі.

Вось карціна мастака І. Белановіча «Пад вясну». На пярэднім плане паказана, як трактар «Беларусь» вязе цяжкагружаную цялежку (не сані!) з торфам. Відаць, аўтар задумаў паказаць размах барацьбы калгаснікаў за будучы ўраджай. Аднак гэта адлюстравана непераканаўча. На калгасных палях амаль немагчыма ўбачыць такую з'яву. На транспарціроўцы звычайна заняты больш магутныя трактары. А «Беларусь» выкарыстоўваецца на палявых ці іншых падсобных работах. І ўжо ніяк нельга паверыць, што гэтая невялікая машына можа забяспечыць высокія тэмпы вывазкі ўгнаенняў, ды яшчэ па такой «пад вясну» дарозе. Аўтар, відаць, мала знаёмы з калгаснай вытворчасцю.

Ці ўзяць карціну «Даяркі» А. Малішэўскага. Невядома, дзе мастаку ўдалося бачыць, каб даяркі даглядалі гадавалых цялят. Хутчэй за ўсё ён хацеў паказаць цялятніц. Трэба ж ведаць, што даяркі звычайна даглядаюць цялят толькі да дваццацідзённага ўзросту. Не ўдалося аўтару перадаць дынаміку карціны. Рухі і жэсты дзяўчат атрымаліся ненатуральнымі, надуманымі. Вядома, такая ўмоўнасць не можа хваляваць гледачоў.

Няправільна перададзеныя дэталі зніжаюць вартасць карціны А. Жолтак «Восень». Хто ж надзяе такія яркія сукенкі на ўборку бульбы? Гэта ж адна з восеньскіх чарнавых работ. Воддаль жа раскладзены вогнішчы для таго, напэўна, каб калгаснікі маглі пагрэць рукі. Інакш яны выглядаюць як непатрэбная дэкаратыўная дэталь. Ёсць і супярэчнасці. Адна з маладых калгасніц любоўна абняла кошык з клубнямі, высыпаючы іх у кучу. Гэта зразумела: каго не радуюць багатыя дары восені, плённы вынік працы. Дэталь надае карціне нейкую паэтычную ўзнёсласць. І тут жа побач жанчына зграбае гэтыя адборныя клубні вілкамі. Вось таму карціна не ўспрымаецца як адзінае цэлае.

У карціне В. Ярмоленкі «Калгасная вясна» таксама няўважліва выпісаны дэталі. На пярэднім плане добра перададзены пупышкі, з якіх паказваюцца маленькія клейкія лісточкі. Далей дрэвы чамусьці пышна зелянеюць. А на заднім плане барва лісцяў перадае каларыт восені.

Усе гэтыя недакладнасці заўважае самае неспрактыкаванае ў мастацтве вока. Заўважаюць іх і калгасныя гледачы. Заўважаюць і трацяць веру ў праўду жыцця ўсяго твора.

І. ГРАБЛЕЎСКІ,
супрацоўнік Астравецкай раённай газеты.

Гродзенская вобласць.

---

чытач змяніўся. «...амаль $\frac{3}{4}$ насельніцтва краіны складаюць асобы, якія нарадзіліся пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі», — чытаем у паведамленні Статыстычнага ўпраўлення. Варта задумацца, ці можа паэтыка нашага фальклору і паэзіі дарэвалюцыйнага часу, цесна звязаная пераважна са светам селяніна, ці можа яна цалкам адпавядаць усім духоўным, эстэтычным запатрабаванням нашага сучасніка, улічваючы той агромністы скачок, які быў зроблены нашым народам за гэтыя гады ва ўсіх сферах жыцця?

Як бы звяртаючыся да нашых сённяшніх эпігонаў фальклору і класікі і некаторых рэцэнзентаў, Максім Багдановіч пісаў у 1915 годзе ў артыкуле «Забыты шлях»: «Напісан верш, каторага ад народнай песні і не адрозніш. Гэта — трыумф пісьменніка, стаўшага на такую пуціну. Але на што той верш? Ці ж замала было б народных песняў і без яго? Далей,— мы ж радзіліся аб развіцці народнай паэзіі, а тут у лепшым прыпадку становімся ўровень з ёй, аб развіцці ж няма і мовы».

Дарэчы, трэба падкрэсліць, у наш час мастак, карыстаючыся выключна той паэтыкай, не можа стаць «уровень» з дарэвалюцыйнай паэзіяй, стварыць такія ж дасканалыя мастацкія каштоўнасці, якія ўвайшлі ў залаты фонд нашай культуры. У яго не будзе **арганічнасці** між сённяшнім практычным светаўспрыманнем і тым мінулым вобразным мысленнем, а без гэтай арганічнасці няма сапраўднага мастацтва.

Гэта зусім не азначае, што наша паэзія адмаўляецца ад былых заваёў. **Увесь вопыт** мінулага ўваходзіць у наш набытак. Але ён ужо недастатковы для патрэб сучаснасці.

Сапраўдная паэзія заўсёды вельмі чуйная да свежых вятроў сучаснасці і яна няспынна ўзбагачаецца. «Захоўваць спадчыну—зусім не азначае яшчэ абмяжоўвацца спадчынай...» (Ул. І. Ленін, творы, т. 2, стар. 495).

Пошукі А. Вялюгіна і звязаны з далейшым развіццём рэалізму ў нашай сённяшняй паэзіі. Культура вялюгінскага верша складае неад'емную частку сучаснай беларускай паэзіі. І тая «контурнасць», супраць якой так заўзята выступае П. Пестрак не што іншае як уменне паэта, абапіраючыся на сэнсавыя, гукавыя, рытмічныя мажлівасці слова, паказаць чалавечае перажыванне ў багацці яго адценняў і пераходаў.

Цікава, што Р. Бярозкін у артыкуле пра творчасць А. Вялюгіна («Полымя», № 10, 1960 г.) якраз як узор майстэрства паэта прыводзіць верш «Вечны каляндар», які выклікаў найбольшыя нараканні П. Пестрака. «Карціна восені, — піша Р. Бярозкін, — намаляваная так жыва і канкрэтна, ва ўсёй неаспрэчнасці яе «каляндарных» прыкмет, **натуральна і лёгка** (падкрэслена мною.—**Ан. К.**), без ніякага зрыву ў алегарычнасць пераводзіцца ў **чалавечы**, псіхалагічны план, і вось яна ўжо не проста восень, а пара спеласці і падрахункаў, пара разумнай чалавечай узмужнеласці». І ці ж гэта дрэнна?

Цяжка зразумець П. Пестрака, калі ён без усякай суаднесенасці з галоўнай думкай твора пачынае гаварыць аб празмернай насычанасці верша метафарамі. Яны ж — адзін са сродкаў, які даў мажлівасць паэту прадметы з іх аб'ектыўнага стану перавесці ў стан суб'ектыўны.

Няма падставы гаварыць і аб іх цьмянасці. Метафары А. Вялюгіна рэалістычныя і не патрабуюць ніякага каментарыя: у вершы бачыш тую жыццёвую аснову, на якой яны ўзніклі. Бяда толькі, што П. Пестрак кожны троп хоча ператварыць у матэрыяльны прадмет. І тады ўсе вялюгінаўскія матафары, накшталт

Мільгаюць дні,
не супыніць
з гары мяцеліц коні, —

пачынаюць скакаць перад ім, як кентаўры.

Але ў гэтым ужо віна не паэта. Вінаваты чытач, які штучна абмежаваўся пэўнай паэтыкай і не бачыць новага дня літаратуры.

Нам патрэбна «добрая і розная» паэзія. І трэба больш радавацца кожнаму поспеху яе майстроў. У нашай літаратуры вялікія традыцыі народнасці, каб так баяцца сёння за ўсякі больш-менш смелы пошук, а да кожнай метафары прыглядацца: «А ці няма тут фармалізму?»

Паэзія — ў бітве адвага,
Не снобаў тупых рэзалюцыі,
Не ведае белага флага
У каханні,
жыцці,
рэвалюцыі.

Ан. КЛЫШКО.

*З мастацкай фотавыстаўкі*



Лабарантка.

Фота А. Дзітлава.

# Пісьмы ў рэдакцыю

## Пакуты пакупніка

Часта бывае так, што пэўны часопіс не выпісваеш, але з яго зместам знаёмішся ў бібліятэцы. Разгарнуў часопіс — вельмі зацікавіў цябе матэрыял, і хацелася б набыць гэты нумар.

Аднак твае пошукі дарэмныя, бо нідзе не купіш свежы нумар часопіса. Так было са мною і на гэты раз. Дзе я ні пытаў 12 нумар часопіса «Бярозка», усюды атрымліваў адмоўны адказ: і ў Абчугскім паштовым аддзяленні, і ў Крупскім «Саюздруку», і ў раённым газетным кіёску.

На самай справе, нельга ж выпісаць усіх выданняў, нават калі ты — актыўны чытач. І тут на дапамогу павінны прыйсці кіёскі «Саюздруку». Трэба завесці такі парадак, каб у гэтых кіёсках можна было набыць любы часопіс, які выдаецца ў нашай рэспубліцы. А на практыцы якраз наадварот. Можна набыць часопіс «Дон» і «Нева», «Сибирские огни», але не знойдзеш «Бярозкі», «Немана», «Сельскай гаспадаркі Беларусі», «Полымя».

Чаму так атрымліваецца, тав. Кусаў? Вы ўзначальваеце ўпраўленне па распаўсюджванню перыядычнага друку, плануеце, колькі і куды якіх накіраваць у продаж часопісаў. І ўсё ж невядома, па чыёй гэта віне нельга набыць свежага нумара нашага рэспубліканскага часопіса.

І. РАБКОЎ,
настаўнік Абчугскай сярэдняй школы Крупскага раёна.

## Тры гады гудуць правады

Яшчэ ў канцы 1957 г. дырэкцыя саўгаса «Рэчыца» пачала радыёфікацыю дамоў рабочых Капанскага аддзялення. Ад вёскі Дунай да Капані на працягу пяці кіламетраў былі пастаўлены слупы, нацягнены дрот. У кожны дом Капані правялі правады. «Набывайце хутчэй рэпрадуктары, у маі 1958 г. у хатах загаворыць радыё», — заяўляла дырэкцыя саўгаса.

Кожны гаспадар дома набыў рэпрадуктар. Але мінула з таго часу больш трох год, а радыё яшчэ не загаварыла. Дырэкцыя па-ранейшаму ўсё абяцае.

Я. ТУЛУПАЎ.

Рэчыцкі раён.

*ПА СЛЯДАХ НАШЫХ ВЫСТУПЛЕННЯЎ*

## «Знішчыць плесню»

Так называўся змешчаны ў 50 нумары нашай газеты за мінулы год артыкул В. Віктарава пра шкодную дзейнасць баптыстаў у Уздзенскім раёне.

Як паведаміў рэдакцыі загадчык аддзела прапаганды і агітацыі райкома тав. К. Кароль, у раёне быў праведзены спецыяльны семінар па навукова-атэістычнай прапагандзе для сакратароў партарганізацый, старшынь сельскіх Саветаў, загадчыкаў агіткалектываў і лектараў, на якім удзельнікі абмяняліся вопытам работы. На семінары выступіў работнік Мінскага аблвыканкома тав. Панамароў з лекцыяй «Аб формах і метадах навукова-атэістычнай прапаганды».

У вёсцы Любячы, аб якой ішла гутарка ў артыкуле, прачытаў лекцыю «Паходжанне сектанцтва» супрацоўнік АН БССР тав. Надольскі.

Лектары раённага аддзялення Таварыства па распаўсюджванню палітычных і навуковых ведаў рэгулярна выязджаюць з лекцыямі ў Любячы і іншыя вёскі. Створаны там таксама гурткі па бягучай палітыцы.

